Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы»

*Б. КУРАГА-СКРАГА*

# ВОСЕМ ГОД У НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫМ БАЛОЦЕ

Мінск, 1963

Аўтар гэтай брашуры больш дваццаці год пражыў на чужыне. Жыў у Італіі, Францыі і іншых краінах. Калі пасля Айчыннай вайны ён апынуўся ў Англіі, там ужо дзейнічалі розныя авантурысты, якія, адчуваючы сваю віну перад Радзімай і народам, разам з гітлераўцамі ўцяклі за мяжу.

Выслужваючыся перад новымі гаспадарамі, яны пачалі ствараць розныя варожыя арганізацыі і ўцягваць у іх нашых землякоў, якія па розных прычынах апынуліся за рубяжом.

У адну з такіх арганізацый пад назвай «Згуртаванне беларусаў Вялікай Брытаніі» трапіў і Броніслаў Курага-Скрага.

Аб тым, што ўяўляе сабой гэтае нацыяналістычнае балота, і расказваецца ў брашуры.

# Коратка аб сабе

ОБРА памятаю я тыя гады, калі ўступіў на шлях самастойнага жыцця. Закончылася грамадзянская вайна. Разруха. Голад. Беззямелле. Тысячы жабракоў на дарогах, сотні абяздоленых дзяцей...

Трынаццацігадовым хлопчыкам пакінуў я бацькоўскі дом, родныя Докшыцы, што на Віцебшчыне, і пайшоў на заработкі. Мне было ўсё роўна, куды ісці, што рабіць. Ды і што мог ведаць я, паўгалодны падлетак, які нічога не бачыў дагэтуль, апрача беднага роднага гарадка?

Дарога павяла мяне ў Навагрудак. Казалі, там многа багатых. Можа, пашанцуе?.. Так і выйшла. Уладкаваўся ў адну багатую сям'ю.

Маёй чатырохкласнай гімназічнай адукацыі хапіла на тое, каб вучыць дзяцей латыні, матэматыцы. З часам стаў нядрэнна зарабляць, назапасіў крыху грошай і паступіў у пяты клас Навагрудскай гімназіі. Потым закончыў ваенную артылерыйскую школу запасу. Працаваў у Гарадзішчы пад Баранавічамі, у Нясвіжы. Марыў закончыць юрыдычны факультэт дзеля таго, каб абараняць беларускі народ, мясцовае насельніцтва ад панскіх парадкаў. Але мяне, беларуса, да вучобы не дапусцілі.

Пад прыгнётам польскіх паноў і магнатаў жыць з кожным днём рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. І не адчуваючы таго, як нядоўга засталося стагнаць беларускаму народу ў панскай няволі, як хутка засвеціць над Заходняй Беларуссю сонца вызвалення, я дастаў турысцкі пашпарт і пакінуў родную зямлю.

Увосень 1936 года мяне сустрэў Парыж. Францыя і беспрацоўе ў той час былі непадзельнымі паняццямі. На работу ўладкавацца было амаль немагчыма. І тады я падаўся ў Іспанію.

Тры гады жыцця ў Іспаніі. Потым зноў Францыя. Работа на сельскагаспадарчых плантацыях і фермах, на будаўніцтве дарог і стальных вежаў, у афіцэрскіх сталовых і кравецкіх майстэрнях, у тэкстыльнай прамысловасці і ў многіх іншых месцах.

Так праходзілі гады. Жыццё многаму навучыла мяне, на многае раскрыла вочы. Свой адбітак наклаў на мяне капіталістычны свет, капіталістычнае асяроддзе.

Вясной 1944 года я разам з іншымі бежанцамі трапіў у сталіцу Англіі — Лондан, дзе ўдалося атрымаць права на жыхарства і працу. За час бадзяння па чужыне я нядрэнна авалодаў замежнымі мовамі, вывучыў іспанскую, французскую, англійскую. Гэта дапамагло мне ўладкавацца на работу ў якасці перакладчыка. Стаў добра зарабляць.

І такім чынам даволі трывала ўсталяваўся ў Лондане.

---

# Як мяне ўцягнулі ў нацыяналістычнае балота



ОЖНА перадаць словамі многае. Трывогі і нягоды, жахі беспрацоўя і страшэнныя галодныя дні, бязлітасную эксплуатацыю і вартыя жалю малюнкі капіталістычнага свету, але ніякімі словамі немагчыма перадаць сум па Радзіме. Гэта ні з чым непараўнальнае пачуццё.

Я быў адзінокі. Ні сяброў, ні добрых знаёмых у мяне не было. I з кожным днём усё больш і больш цягнула мяне да родных людзей.

...Стаяла восень 1948 года. У адзін з суботніх вечароў я зайшоў ва Украінскі клуб, які знаходзіўся на вуліцы Ліндэн-Гардэнс. Там быў танцавальны вечар. Я ўбачыў многа вясёлай моладзі... Мяне, навічка, гасцінна сустрэ-

лі, прапанавалі прыняць удзел у вечары, далі некалькі газет на украінскай мове. Я нясмела папрасіў:

— А ці няма ў вас беларускіх газет? Хацелася б пачытаць на сваёй родай мове. Украінскую я слаба ведаю.

— Калі ласка, — адказалі мне мае новыя знаёмыя. — У нашым клубе змяшчаецца канцылярыя беларускай арганізацыі, там атрымаеце ўсё, што хочаце.

І мяне правялі ў гэтую арганізацыю. Я трапіў у даволі вялікі, сціпла абстаўлены пакой. Некалькі пісьмовых сталоў, шафа, крэслы, столік з пішучай машынкай — вось і ўся мэбліроўка. Там я застаў трох маладых мужчын. Пазнаёміліся: Часлаў Кукель (таварышы называлі яго Чэськам), Аркадзій Варава і Жданковіч (імя яго не памятаю). Наперабой яны сталі задаваць мне мноства пытанняў: хто я, адкуль, як жыву, дзе працую і г. д. Я ахвотна адказваў. Прызнаюся, мне было прыемна размаўляць з імі. Нарэшце знайсці родных людзей, пасля стольскіх год пачуць дарагую беларускую мову (усе трое гаварылі па-беларуску). Потым мне прапанавалі запоўніць членскую картачку. Пытанні былі самымі звычайнымі: прозвішча, імя і імя па бацьку, год нараджэння, нацыянальнасць, месца работы і жыхарства...

На развітанне мне далі некалькі нумароў «Бацькаўшчыны» і «На шляху» — газет на беларускай мове. Аркадзій Варава выказаў жаданне праводзіць мяне. У гэты вечар ён прапанаваў мне зайсці да яго дадому.

Жыў Варава ў інтэрнаце для беларускіх рабочых. Зайшоў да яго. Там пазнаёміўся з некаторымі іншымі членамі беларускай арганізацыі. Мне запомніліся гэтыя хлопцы, грубыя і самаўпэўненыя.

Завязалася ажыўленая размова. Мае новыя знаёмыя абяцалі «аблегчыць» маё адзінокае існаванне. Прапанавалі сваю дружбу, а калі патрэбна будзе,— і грошы. Узамен жа пакуль нічога не прасілі.

— Прыходзь заўтра, у нядзелю, пойдзем разам на богаслужэнне. Там пазнаёмішся з нашымі «шэфамі», — сказаў мне Варава.

«Богаслужэнне... шэфы... У чым справа?» — недаўменна падумаў я, але ўголас выказацца не адважыўся.

— Добра, прыду.

Дома я разгарнуў прынесеныя мною ад новых сяброў газеты. Начытаўшыся іх, я прышоў у замяшанне:

— Мая Беларусь... Там, як і раней, галеча. Родны народ... Ён па-ранейшаму пакутуе...

Не ведаю чаму, ці то сэрца падказала, ці так моцна падзейнічалі цяжкія весткі, прынесеныя газетамі, але на наступны дзень я не пайшоў на сустрэчу з Варавам. Не хацелася нікога бачыць, ні з кім гаварыць.

Аднак новыя сябры аказаліся празмерна клапатлівымі. І хоць я не сустракаўся з імі, яны рэгулярна сталі прысылаць мне газеты «На шляху» і «Бацькаўшчына».

Праз некаторы час атрымаў пісьмо, падпісанае Аляксандрам Лашуком. У ім было запра-

шэнне да аднаго з членаў беларускай арганізацыі — Чэслава Сіповіча.

Я накіраваўся па ўказанаму адрасу: Холадэн авеню, 12. Трохпавярховы асабняк-манастыр Сіповіча быў акружаны вялікім садам. Увайшоўшы праз парадныя дзверы, я трапіў у капліцу. Прыняў мяне сам Чэслаў Сіповіч — каталіцкі святар, сярэдняга росту мужчына, гадоў трыццаці пяці, з хітрым выразам твару, на якім, як прыколатая, сядзела светлая барадка. Там жа быў і малады высокі мужчына ў акулярах.

— Надсон Аляксандр — актыўны дзеяч арганізацыі, — прадставіў мне яго Сіповіч.

— Чаму не прыйшлі да нас раней? — з хітрай ліслівай усмешкай спытаў у мяне Сіповіч, які здаўся мне тады на рэдкасць абыходлівым чалавекам.

— Прабачце, усё часу не было,— адказаў я.— Ды і саромеўся. Бо я ж — сціплы працаўнік.

— У нас усе сціплыя працаўнікі,— заўважыў Надсон.

Потым Сіповіч падрабязна распытваў аб маёй рабоце, аб жыцці ў Францыі, Іспаніі, пацікавіўся, ці займаюся я палітычнай дзейнасцю. Я адказаў, што я ёю ніколі не займаўся і не збіраюся займацца.

— Пажывём — убачым,— сказалі мне субяседнікі.

На наступны дзень мне зноў прапанавалі прыйсці на богаслужэнне і даволі выразна далі зразумець, што я не павінен адмаўляцца —

шляху назад мне няма. І мне паказалі запоўненую мной членскую картачку.

Такім чынам я, будучы ў той час па дакументах Янкам Пілецкім, стаў членам арганізацыі, аб дзейнасці якой амаль нічога не ведаў.

...На наступны дзень я зноў быў у манастыры Сіповіча. У капліцы ішло богаслужэнне. Там я ўбачыў даволі многа новых людзей. Пасля службы Сіповіч запрасіў усіх на абед, потым павінен быў адбыцца сход. Мне сказалі застацца і прысутнічаць на ім.

Пазнаёміўся з Жук-Грышкевічам, Лашуком, Курылам, Мазурам і іншымі «дзеячамі». Хутка прыехалі з горада яшчэ некаторыя члены арганізацыі. Гэта былі ўпартыя праваслаўныя, якія не хацелі прысутнічаць на каталіцкім богаслужэнні.

Сход пачаўся. На парадку дня былі выбары старшыні па Лонданскаму аддзяленню, розныя арганізацыйныя пытанні.

Выбары старшыні былі падобныя на нейкую камедыю, дзе галоўнай дзеючай асобай аказаўся я. Пачалася гэта камедыя з таго, што сам «прафесар» Вікенцій Жук-Грышкевіч вылучыў маю кандыдатуру на пасаду старшыні. Яго падтрымалі астатнія члены. У той момант мне здалося, што мяне агрэлі па галаве абухом, і я згубіў раўнавагу. Калі трохі апамятаўся, пачаў маліць:

— Што вы, я ж новы чалавек. Не ведаю ні задач, ні мэт вашай арганізацыі, ні вашых ме-



Павук-святатар Ч. Сіповіч.

тадаў работы. Які ж з мяне кіраўнік аддзела беларускай арганізацыі?.

— Нічога страшнага. Хутчэй даведаецеся на кіруючай пасадзе,— адказалі мне.— Усе вашы довады малаважныя.

Прагаласавалі. Прайшоў адзінагалосна. Мне сказалі тады:

— За ўнутраныя справы можаце не непакоіцца, мы тут разбяромся і справімся самі, а са сваёй адукацыяй і веданнем моў вы будзеце займацца знешнімі пытаннямі: прадстаўляць нашу арганізацыю на ўсіх міжнацыянальных з'ездах, выступаць у газетах, на сходах, займацца рознымі арганізацыйнымі пытаннямі і г. д. Прасцей і карацей кажучы — возьмецеся за перавыхаванне мас.

Мяне ж перавыхоўваць яны ўзяліся самі, і трэба сказаць, даволі заўзята і ў тэмпе.

Так я стаў не толькі членам арганізацыі з гучнай назвай «Згуртаванне беларусаў Вялікай Брытаніі» (ЗБВБ), але і старшынёй яе лонданскага аддзела. Выхаду са становішча, якое ўтварылася, я не бачыў. Гэта ж амаль кожны дзень унушалі мне і мае шэфы. І я стаў працаваць. Штодзённа адседжваў на адным-двух сходах, пісаў выступленні, рабіў даклады, друкаваўся ў нацыяналістычных газетах. І заўсёды і ўсюды, як вучылі мяне мае шэфы, выдаваў сябе і сваю арганізацыю за сяброў і сапраўдных абаронцаў беларускай эміграцыі і нават усяго беларускага народа.

Паступова я ўсё больш і больш даведваўся

аб гісторыі стварэння «Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі».

Склалася гэта зборышча з беларускіх буржуазных нацыяналістаў — даўніх ворагаў беларускага народа, якія выконвалі волю сваіх імперыялістычных гаспадароў.

Афіцыяльна «Згуртаванне» было створана ў 1947 годзе, пасля першага з'езда ў Лондане, але фактычна пачатак яго дзейнасці адносіцца да 1945 года, калі ў арміі Андэрса (у Італіі, а затым у Англіі) прымаліся меры па аб'яднанню беларускіх нацыяналістаў, якія там знаходзіліся. Прытым ставілася задача пашырыць свой уплыў на беларусаў з ліку перамешчаных асоб, якія ў 1947—48 гг. сталі прыбываць у Англію з Заходняй Германіі.

Арганізатарам «Згуртавання» з'явіўся вядомы беларускі нацыяналіст Вікенцій Жук-Грышкевіч. Потым на дапамогу яму Ватыкан прыслаў ксяндза беларускага паходжання Чэслава Сіповіча, які стаў на чале так званай «Беларускай каталіцкай місіі Вялікабрытаніі». Як указана вышэй, ядром ЗБВБ з'явіліся кадры з арміі Андэрса. Англійскія і амерыканскія ўлады ў 1944—45 гг. дазволілі Андэрсу прыняць у яго армію беларусаў, былых ваенных і злачынцаў, якія перадаваліся яму ў гітлераўскіх мундзірах. Гэтыя асобы забяспечваліся дакументамі з фальшывымі прозвішчамі, пад якімі некаторыя з іх вядомы і зараз.

У кіраўніцтве «Згуртавання» стаяла пэўная група нацыяналістаў, якая толькі часова мянялася ролямі. Так, з 1946 года па 1948 год

у ЗБВБ старшынстваваў Жук-Грышкевіч. Затым «прафесар» Нікола Нікан, Франц Бартуль, Паўла Асіповіч, Павел Навара; у 1955—56 гг. — зноў Паўла Асіповіч, а з чэрвеня 1956 года — Мікалай Арцюх. Пастаянным членам цэнтральнага праўлення «Згуртавання» быў Чэслаў Сіповіч.

Аддзелы ЗБВБ былі створаны ў Лондане, Манчэсцеры, Бірмінгаме, Брэтфордзе. Стварыць аддзелы ў Кавентры і Ноцінгеме згуртаванцам не ўдалося — беларусы не далучыліся. Мясцовыя аддзелы асаблівай актыўнасці не праяўлялі. Але яны прымалі ўдзел у антысавецкіх дэманстрацыях і ўсякага роду святах: нацыяналістычных і рэлігійных.

Трэба сказаць, што колькасць членаў ЗБВБ у яго аддзелах праз некаторы час пачала паступова змяншацца ў сувязі з тым, што многія беларусы выязджалі ў другія краіны, а некаторыя проста пераставалі наведваць сходы, плаціць членскія ўзносы і выбывалі механічна. Але ў той час «Згуртаванне беларусаў Вялікай Брытаніі» было найбольш актыўна дзеючай беларускай нацыяналістычнай арганізацыяй у Англіі. Былі і іншыя арганізацыі нацыяналістаў: «Хрысціянскае аб'яднанне беларускіх рабочых», «Саюз беларускіх камбатантаў», «Беларускае акадэмічнае аб'яднанне», «Беларускае праваслаўнае брацтва» і інш.

ЗБВБ — асноўная нацыяналістычная арганізацыя — пакідала за сабой ролю арганізатара і натхніцеля ўсёй нацыяналістычнай дзейнасці на тэрыторыі Англіі. Верхаводы і акты-

вісты ЗБВБ часта займалі кіруючыя пасады і ў іншых беларускіх нацыяналістычных арганізацыях, а члены «Згуртавання» былі адначасова членамі некалькіх іншых арганізацый. Усё гэта рабілася з мэтай стварыць ўражанне шматлікасці беларускіх нацыяналістычных арганізацый, прыцягнуць да сябе ўвагу англійскіх улад, атрымаць маральную і матэрыяльную дапамогу ў сваёй антысавецкай дзейнасці.

Практычная работа «Згуртавання» праводзілася ў асноўным у трох дамах, купленых на сродкі членаў: у Лондане, Манчэсцеры і Брэтфордзе. Усе важныя дакументы галоўнай управы (перапіска з Ватыканам, амерыканскай і англійскай разведкамі і інш.) захоўваліся ў апартаментах Чэслава Сіповіча.

ЗБВБ мела непасрэдны кантакт з англійскай разведкай. Пастаянным прадстаўніком разведкі па беларускіх пытаннях з'яўляўся маёр Керк, які часта бываў у Сіповіча. Да Керка гэту ролю выконваў нейкі Браун. Па даручэнню Керка і Брауна «Згуртаванне» вяло назіранне за асобнымі эмігрантамі.

ЗБВБ супрацоўнічала і з амерыканскай разведкай, забяспечвала яе беларускімі нацыяналістамі, якіх накіроўвала ў амерыканскі камітэт «Вызваленне народаў Расіі», «Інстытут па вывучэнню СССР», радыё «Вызваленне», («Свабода»), у школу разведчыкаў і тэрарыстаў. Галоўную ролю па падбору кадраў для амерыканскай разведкі адыгрывалі Ч. Сіповіч, П. Сыч, А. Лашук. Садзеянне гэтай справе аказвалі ўсе члены галоўнай управы, многія

студэнты Лювенскага каталіцкага універсітэта (ў прыватнасці Б. Рагуля) і інш.

На працягу ўсёй сваёй дзейнасці «Згуртаванне» вяло мэтанакіраваную антысавецкую прапаганду: праз выдаваемыя газеты «На шляху», «Беларусь на чужыне», «Бацькаўшчына», выпускала асобныя друкаваныя выданні і інфармацыйныя бюлетэні. «Згуртаванцы» ўсякімі шляхамі ўводзілі ў зман эміграцыю, паклёпнічалі на Савецкую краіну, самым бессаромным чынам скажалі савецкую рэчаіснасць, рыхтавалі якісьці «вызваленчы» паход супраць Савецкай Беларусі, якая, паводле іх сцвярджэнняў, «стагнала пад бальшавіцкім гнётам». Кожны артыкул у газеце, кожны радок уяўлялі суцэльную бязглуздзіцу. Пры дапамозе фальшывых лісткоў нацыяналісты ажыццяўлялі свае планы. Калі «Згуртаванню» патрэбны былі грошы на пакупку новага дома, дзе можна было б шырока разгарнуць «дзейнасць», на гулянкі і папойкі, іх газеты крычалі аб тым, што грошы патрэбны на карысць Беларусі, якая «пакутуе». Эміграцыю абкладалі падаткамі, збіраліся ахвяраванні, наладжваліся платныя вечарынкі.

Дакладна не памятаю, але здаецца, у пачатку 1949 года на сабраныя грошы нацыяналісты купілі дом па вуліцы Пен Роуд, 52, ля ўваходу ў які адразу ж закрасавалася шыльда: «Згуртаванне беларусаў Вялікай Брытаніі». У гэты вялікі трохпавярховы асабняк перамясціліся галоўны камітэт «Згуртавання», рэдакцыя газеты «На шляху», у некаторых пакоях пасялі-



Бебурнацы ачышчаюць кішэні эмігрантаў.

лiся самi «згуртаванцы». Але галоўным месцам зборышча дзялкоў, якiя атручвалi свядомасць людзей iдэямi чалавеканенавiснiцтва i хлуснёй, дзе плялося лiпкае павуцiнне, па-ранейшаму заставаўся дом-манастыр Чэслава Сiповiча. Я пачаў часта бываць у гэтым доме, дзе наладжвалiся сходы «згуртаванцаў». На кожным такiм зборышчы пералiвалася з пустога ў парожняе адна i тая ж хлусня аб Бацькаўшчыне i народзе, якому яны быццам бы хацелi служыць.

Што магу сказаць пра дом-манастыр Чэслава Сiповiча?

Ён быў ачагом рэакцыi i цемрашальства ў барацьбе супраць прыхiльнiкаў мiру i дэмакратыi. Паводзiны Ч. Сiповiча нiяк не адпавядалi патрабаванню манашаскага жыцця. I манастыр яго быў далёка не «святым» месцам. Удзень тут iшло богаслужэнне, а ўвечары наладжвалiся дзiкiя гулянкi, папойкi, танцы, прапiвалiся ахвяраваннi веруючых. Часта Сiповiч прадаваў нам па вельмi завышанай цане царкоўнае вiно.

У той час я працаваў загадчыкам аддзела замежнай лiтаратуры ў адным з кнiжных магазiнаў Лондана. Гэта быў буйны магазiн па распродажу каталiцкай духоўнай лiтаратуры. Вельмi часта да нас заходзiў брат Вэтса — ўладальнiка вiнных магазiнаў у Лондане. Мы гутарылi з iм. Аднойчы ён расказаў мне, што Сiповiч купляе ў вялiкай колькасцi вiно ў яго брата. Назваў цану, па якой Вэтс прадае вiно Сiповiчу. Я быў страшэнна здзiўлены, калi да-



«Вырашаюцца» самыя вострыя «праблемы»...

ведаўся, што нам, «згуртаванцам», Сіповіч прадае яго ў два, а то і ў тры разы даражэй, чым купляе ў Вэтса.

Усе ведалі Сіповіча, як заўзятага скнару. Усюды, дзе толькі можна было, ён стараўся як мага больш грошай перакласці з чужой кішэні ў сваю. Сіповіч не грэбаваў нават выйграць на сабачых скачках.

У доме «святога» айца Сіповіча да адурэння вяліся азартныя гульні ў карты. Самымі буйнымі аматарамі-карцёжнікамі былі сам Сіповіч, Надсон, Сыч, Амор, Навара, Смалонскі і інш. І вось у такім п'яным карцёжным чадзе гэтыя «дзеячы» вырашалі пытанні, як лепш ашукаць народ, якім чынам аплесці сваім павуціннем большую колькасць людзей.

— Мы — дзяржаўныя дзеячы! Мы заклікаты абараняць беларусаў, стаяць на варце іх інтарэсаў!—крычаў Сіповіч, і п'яныя сіповіцкія падпявалы ўторылі яму.

---

# Майстры здрадніцкіх спраў



ЖО даволі доўгі час я сядзеў у нацыяналістычным балоце. Усё больш і больш стаў разумець, якім фальшывым флагам «абароны нацыянальных інтарэсаў» прыкрываецца гэта арганізацыя. Добра ведаў я, што яна прапаведуе, якімі метадамі і сродкамі зацямняе свядомасць эміграцыі. Ведаў я і ўсіх дзеячоў гэтага зборышча, якія выдавалі сябе за прадстаўнікоў і абаронцаў беларускага народа.

Для некаторых з іх шлях за рубеж, у «Згуртаванне», ляжаў праз трупы людзей, забітых і закатаваных у гады Вялікай Айчыннай вайны. Ратуючы сваю скуру ад народнай помсты,

яны ўцяклі за мяжу і, змяніўшы сваіх гаспадароў, прадоўжылі здрадніцкую дзейнасць. Да іх ліку адносіцца забойца Рагуля і да яго падобныя. Іншыя ж, як Сіповіч, Жук-Грышкевіч, Сыч, праславіліся сваёй антысавецкай нацыяналістычнай дзейнасцю яшчэ ў перыяд гаспадарання на тэрыторыі Заходняй Беларусі польскіх паноў. Трэція, як напрыклад я, былі абманным шляхам уцягнуты ў гэта здрадніцкае пекла па несвядомасці і супраць волі пайшлі па гэтаму шляху. Сабраўшыся разам, ворагі беларускага народа перадавалі адзін аднаму свой вопыт у вядзенні варожай народу дзейнасці і вучылі гэтаму іншых.

Я апішу гэтых «прадстаўнікоў» і «абаронцаў» беларускага народа такімі, якімі ведаў іх тады, калі прышоў у «Згуртаванне».

**ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ.** Нарадзіўся ў 1914 годзе ў каталіцкай сям'і ў вёсцы Дзедзіно Міёрскага раёна. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Друйскай каталіцкай гімназіі.

У 1938 годзе Сіповіч прыбыў у Ватыкан, дзе закончыў універсітэт св. Георгія і атрымаў ступень доктара філасофіі. Потым Ватыкан накіраваў Сіповіча ў Англію ў якасці кіраўніка каталіцкай місіі.

Так сярод эміграцыі з'явіўся беларускі каталіцкі «святатар», «наладжвальнік беларускага каталіцкага жыцця за рубяжом, які пабацькоўску затурбаваўся доляй і нядоляй усіх беларусаў, зацікавіўся беларускімі рэлігійнымі патрэбамі». Такімі словамі разрэкламавалі

яго нацыяналісты ў сваёй прэсе. «Наладжвальнік беларускага жыцця» стаў збіраць вакол сябе духоўных «дзяцей». Але, як падкрэсліваў у той час нават нацыяналістычны друк, у яго была «невялікая колькасць зарганізаваных парахвіяў». Сіповіч стаў аб'ядноўваць вакол сябе не толькі веруючых, але і ўсялякі зброд, а потым стаў прэтэндаваць на кіраўніцтва ў ЗБВБ.

З моманту выезду з Англіі Грышкевіча Сіповіч з'яўляўся галоўным арганізатарам усёй антысавецкай дзейнасці беларускіх нацыяналістаў, стаў прыбліжаным Абрамчыка. Апошні заўсёды спыняўся ў яго, калі прыязджаў з Парыжа ў Лондан.

У перыяд актыўнай вярбоўкі Рагулем і Сычом агентуры з ліку беларускіх нацыяналістаў Сіповіч аказваў ім актыўную падтрымку, прадастаўляў кватэру, арганізоўваў сустрэчы з беларусамі, вёў антысавецкую прапаганду, вербаваў у шпіёны, падкрэсліваючы, што гэта з'яўляецца «беларускай справай».

У гады Вялікай Айчыннай вайны Сіповіч супрацоўнічаў з гітлераўцамі і ўсяляк дапамагаў ім. У гэты час ён не раз наездамі бываў у Вільнюсе і іншых савецкіх гарадах. Знаходзячыся на часова акупіраванай гітлераўскімі захопнікамі тэрыторыі Беларусі, Сіповіч бачыў зверствы, якія тварылі фашысты на беларускай зямлі. Але толькі адзін раз ён праявіў сваё спачуванне, калі фашысты застрэлілі каталіцкага свяшчэнніка. Бачачы ж сотні забі-

тых і закатаваных фашыстамі жанчын, дзяцей і старых, гэты «святы» айцец праходзіў міма зусім раўнадушна.

Пасля сканчэння вайны Сіповіч не раз з жалем гаварыў:

— Калі б немцы выйгралі вайну, Беларусь з'явілася б на карце, як незалежная краіна...

Так, гэтаму «вызваленцу» хацелася бачыць Бацькаўшчыну ў ярме гітлераўскіх крыжаносцаў.

**ВІКЕНЦІЙ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ.** Нарадзіўся на Вілейшчыне ў вёсцы Буцлаў. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза Жук-Грышкевіч за злачынную дзейнасць быў высланы ў Караганду. Там ён пазнаёміўся з П. Сычом. Разам з ім выехаў за мяжу. Ужо ў Італіі, знаходзячыся ў арміі Андэрса, ён пачынае дагаворвацца з беларускімі нацыяналістамі аб тым, як лепш забяспечыць сабе цёплае месца пасля вайны. У складзе гэтай арміі прыбыў у Англію разам з групай беларускіх нацыяналістаў, касцяком будучага ЗБВБ. З 1946 года пачынае актыўна ўцягваць іншых беларусаў у гэту арганізацыю, а з пачаткам паступлення ў Англію перамешчаных асоб у 1947 годзе, склікае першы з'езд «Згуртавання».

Пасля ўстанаўлення амерыканскай разведкай сувязі з беларускімі нацыяналістамі і стварэння амерыканскага камітэта «Вызваленне народаў Расіі» Грышкевічу прапанавалі пераехаць у Мюнхен для арганізацыі беларус-

кай рэдакцыі радыё «Вызваленне», што ён і зрабіў. Там Жук-Грышкевіч прабыў каля трох год. За гэты час ён усім надакучыў і вымушаны быў пакінуць Мюнхен.

У 1956 годзе, вяртаючыся з Мюнхена ў Лондан, Грышкевіч выступіў на сходзе «згуртаванцаў» з дакладам аб поспехах беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне». З гэтага дакладу можна было зразумець, што лідэры нацыяналістаў перш за ўсё клапоцяцца аб тым, каб хто з іх не аказаўся ў лепшых умовах. Яны грызліся паміж сабой за лепшую пашану ў хлебадаўцаў.

Жук-Грышкевіч — заўзяты вораг Савецкай улады, нацыяналіст-фанатык. Калі я пазнаёміўся з Грышкевічам, яму было гадоў сорак пяць, але быў зусім сівым і выглядаў старэй сваіх год. Займаў ён тады пасаду старшыні «Згуртавання», называў сябе «прафесарам». На старшынскае месца імкнуўся нікога не дапускаць, вельмі любіў, каб у галоўную ўправу выбіраліся людзі, якія слепа падначальваліся яму.

Жук-Грышкевіч — агідны істэрык. Аднойчы, калі ў нас праходзіў чарговы сход, ён уступіў у спрэчку з Лашуком. Справа скончылася тым, што «прафесар» запусціў чарнільніцай Лашуку ў лоб. Зняважаны Лашук, абліты чарніламі, стукнуў дзвярыма і пайшоў. Некалькі чарговых сходаў «Згуртавання» прысвячаліся прымірэнню Жука-Грышкевіча і Лашука.

Жук-Грышкевіч — на рэдкасць няўжыўчывы чалавек. Са «згуртаванцамі» заўсёды спрачаўся, усіх зневажаў. «Прафесар» хацеў іграць першую скрыпку, але не заўсёды гэта яму ўдавалася. Калі хто-небудзь асмельваўся крытыкаваць Грышкевіча, ён лаяў гэтага чалавека апошнімі словамі.

Цяпер Жук-Грышкевіч жыве ў канадскім горадзе Манрэалі.

**АРКАДЗІЙ ВАРАВА.** Гэта грубы, фізічна дужы чалавек. Ведаю, што Варава ў гады Вялікай Айчыннай вайны вучыўся ў мінскай афіцэрскай школе, створанай гітлераўцамі, потым арудаваў у Стаўбцоўскім раёне. (Дарэчы, Стаўбцоўшчына — радзіма Варавы). У канцы вайны, калі Варава збег з Беларусі за граніцу, ён прывёз з сабой многа нарабаванага золата, купіў потым у Лондане дом і шмат каштоўных рэчаў.

Варава быў вялікім сябрам і памочнікам Р. Астроўскага. Калі «прэзідэнт» прыязджаў у Лондан са Злучаных Штатаў Амерыкі або з Германіі, ён спыняўся ў Варавы. Апошні даваў яму падрабязную інфармацыю аб стане ўсіх спраў.

Варава быў звязаны з англійскай разведкай, паведамляў, хто на што здольны і дзе можа спатрэбіцца. Ён нікуды не выязджаў з Лондана ў адрозненне ад іншых «згуртаванцаў», таму што ў любы час мог спатрэбіцца сваім шэфам.

Некаторы час Варава быў старшынёй ад-

дзела Беларускай цэнтральнай рады, а таксама актыўным членам ХАБРа. У 1950 годзе яго прызначылі старшынёй ХАБРа, і, памятаю, у той час ён вёў са мной перагаворы аб цесным супрацоўніцтве ХАБРа і ЗБВБ.

**ПАВЕЛ НАВАРА.** Хітры шулер. Вельмі любіў азартныя гульні ў карты. Мог ашукаць кожнага.

У гады акупацыі Беларусі Навара вучыўся ў мінскай афіцэрскай школе. Старанна вывучаў там нямецкі статут. З набліжэннем Савецкай Арміі ўцёк за мяжу, пасяліўся ў Лондане, дзе цесна звязаўся з англійскай разведкай. Рэгулярна паведамляў разведцы, як паводзяць сябе яго «браты-суродзічы» са «Згуртавання».

Калі Навара скончыў лонданскі універсітэт, на работу не пайшоў: хапала грошай, якія атрымліваў за даносы. Быў заўсёды актыўным дзеячом «Згуртавання». Некаторы час узначальваў яго лонданскі аддзел. Часта пісаў артыкулы ў «Бацькаўшчыну», выступаў на сходах. Вось такім я запомніў гэтага «беларуса» з Навагрудчыны.

**АЛЯКСАНДР НАДСОН.** Сын польскага настаўніка з Гарадзеі. Нарадзіўся на Нясвіжчыне. У Нясвіжы атрымаў пачатковую адукацыю. Сапраўднае яго прозвішча **БУЧКО.**

Добра памятаю гэтага высокага маладога, заўсёды неахайна апранутага мужчыну ў акулярах, з мядзведжай паходкай. Ён заўсёды рабіў так, як яму загадвалі, бо сваіх цвёрдых

пераконанняў у яго ніколі не было. Прыстасаванец. Надсон сам гаварыў, што да вайны быў актывістам, а ў гады акупацыі Беларусі стаў выдатным гітлераўцам.

Калі тэрыторыю Беларусі часова акупіравалі фашысты, Надсон пайшоў да іх на службу, скончыў мінскую гітлераўскую афіцэрскую школу і адправіўся на «подзвігі» супраць беларускага народа. У канцы вайны разам з фашыстамі ўцёк у Германію. Быў на заходнім фронце. Крыху пазней, пад прозвішчам Надсон, служыў у арміі Андэрса.

Да беларускіх нацыяналістаў Надсон прымкнуў яшчэ ў Італіі, пасля таго як пазнаёміўся з Грышкевічам, Сіповічам і іншымі. З прыездам у Англію стаў актыўным членам «Згуртавання» і першым намеснікам старшыні галоўнай управы. Жыў у Беларускім доме ў Брэтфордзе, паводзіў сябе, як хуліган і бадзяга. Стыпендыю, якую атрымліваў у Лонданскім універсітэце, траціў на працягу тыдня, астатні час жыў за кошт сяброў.

Пасля ўходу Бартуля з пасады старшыні ЗБВБ на яго месца ў разгары спрэчак на з'ездзе была ў ліку іншых высунута і кандыдатура Надсона. І хоць Сіповіч назваў яго тады забулдыгам і п'яніцам, старшынёй быў абраны ён, Надсон. Стаўшы «кіраўніком», ён перайшоў жыць да Сіповіча, прыняў каталіцкую веру і пачаў выступаць з заклікамі аб пераходзе беларусаў з праваслаўнай веры ў каталіцкую. У 1952 годзе Надсон па рэкаменда-

цыі Сіповіча паступіў вучыцца ў Ватыканскі каталіцкі універсітэт, скончыў яго і стаў свяшчэннікам.

Памятаю Надсона як вялікага двурушніка і ашуканца. Для дасягнення сваіх мэт гэты святоша, хаваючы за акулярамі ілжывыя вочы, прыбягаў да любых метадаў. Пра Надсона можна сказаць: чалавек, здольны на любую подласць.

**АЛЯКСАНДР ЛАШУК.** Былы дробны чыноўнік польскага валаснога ўпраўлення. Некаторы час працаваў у невялікай польскай друкарні наборшчыкам. У гады Айчыннай вайны быў пісарам валасной управы мястэчка Ілья.

Апынуўшыся за рубяжом, Лашук стаў прымаць дзейсны ўдзел у нацыяналістычных арганізацыях. Неаднаразова выбіраўся ў члены галоўнай управы ЗБВБ, а таксама «Групы камбатантаў».

Гэта выключна ўпарты і злапамятны чалавек. Ніколі нікому не дараваў. Вельмі скупы, запасіў грошы.

Лашук з'яўляўся прадстаўніком БНР (радным), вельмі ганарыўся сваёй блізкасцю да «прэзідэнта» Абрамчыка.

Што ж уваходзіла ў яго абавязкі? Распаўсюджваць нацыяналістычную прэсу, літаратуру. У 1949—53 гг. Лашук выконваў даручэнні Рагулі і Сыча па вярбоўцы агентуры для амерыканскай разведкі. У прыватнасці, ён ездзіў па гарадах Англіі, збіраў анкеты на беларусаў, якія падыходзяць для гэтай мэты. Трэба сказаць, што ўсе даручэнні Лашук выконваў

вельмі старанна. Заўзяты нацыяналіст, Лашук заўсёды выключна варожа ставіўся да Савецкага Саюза. Нярэдка яго можна было сустрэць на праглядах савецкіх кінафільмаў, за кнігай рускіх пісьменнікаў. Але як потым чарніў ён усё гэта — цяжка перадаць!

**КАСТУСЬ АМОР.** Ураджэнец Дзісненскага раёна. Сапраўднае яго прозвішча **КАДУШКА.** У гады гітлераўскай акупацыі служыў у фашыстаў. Немцы аказвалі Амору вялікае давер'е.

У Лондане Амор не меў пастаяннай работы ды і не любіў працаваць, затое умеў добра выступаць, актыўна супрацоўнічаў у нацыяналістычным друку, тым і карміўся. Любіў нажывацца за чужы кошт.

Памятаю такі выпадак. Пасля смерці аднаго рабочага беларуса Амору перадалі ўсе зберажэнні памёршага з просьбай пераслаць іх у Беларусь яго жонцы. Амор усё гэта прысвоіў. На адным з пасяджэнняў «згуртаванцы» вымушаны былі абмеркаваць гэты ўчынак Амора, але ўрэшце даравалі, як даравалі многія іншыя нячыстыя справы.

П'яніцу і карцёжніка Амора завербавалі ў дыверсійную разведвальную школу. З таго часу ён знік бясследна. Ніхто з нас пра яго нічога не чуў. Мне ён абяцаў пісаць, але я ніякіх вестак ад яго не атрымліваў. Калі я пытаўся ў Сіповіча або Сыча, дзе знаходзіцца і як жыве мой карцёжны сябар, ад мяне патрабавалі, каб гэтага пытання я больш ніколі не ўзнімаў.

**ПЁТР СЫЧ.** Ураджэнец Вілейшчыны. Скончыў гімназію ў Заходняй Беларусі. Да 1939 года супрацоўнічаў у польскіх газетах, служыў малодшым афіцэрам у польскіх войсках. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі быў высланы ў Караганду за антынародную дзейнасць. Там сустрэўся з Вікенціем Жуком-Грышкевічам. Дружба з ім аказала на Сыча свой уплыў. Разам з Грышкевічам Сыч быў у арміі Андэрса, разам з ім трапіў у Англію. І там іх дзейнасць таксама пайшла ў адным кірунку — у «Згуртаванні».

У Лондане Сыч працаваў мастаком па расфарбоўцы тканін. Нядрэнна зарабляў, але ўсе грошы прапіваў. Гэта заўзяты п'яніца і меланхолік. Двойчы хацеў пакончыць жыццё самагубствам, але яго выратоўвалі.

У нацыяналістычнай дзейнасці спачатку актыўнага ўдзелу не прымаў, адмаўляўся ад удзелу ў з'ездах, пасяджэннях, займаючыся ў асноўным журналістыкай. У 1950 годзе па пратэкцыі «федэрацыі журналістаў» і Сіповіча быў прыняты на службу ў амерыканскія разведвальныя органы, па заданню якіх праводзіў вярбовачную работу ў Заходняй Германіі і Англіі. Гэта ён у ліку іншых завербаваў Кастуся Амора. У той час Сыч хваліўся, што зарабляе многа грошай, і жыў на шырокую нагу.

Працуючы ў разведцы, Сыч часта лятаў самалётам у Мюнхен. Ён быў галоўным сувязным паміж Мюнхенам і Сіповічам, якому перадаў «кіруючыя» ўказанні. Ведаю, што пазней Сыча з разведкі выкінулі, пасля чаго

ён пачаў скардзіцца на цяжкае жыццё. Праз некаторы час, прыкладна ў 1954 годзе, пайшоў працаваць у беларускі аддзел радыё «Вызваленне». Гэта ён складаў антысавецкія праграмы на беларускай мове.

Устойлівых палітычных поглядаў Сыч ніколі не меў. Пісаў антысавецкія артыкулы ў нацыяналістычным друку (яны падпісваліся ініцыяламі «П. С.»). Адначасова адмоўна адгукаўся аб амерыканцах, лаяў іх і заяўляў, што яны мала цікавяцца «беларускім пытаннем».

**ФРАНЦ БАРТУЛЬ.** За мяжу ён трапіў з арміі Андэрса. Па спецыяльнасці — зубны тэхнік. Некаторы перыяд Бартуль быў старшынёй лонданскага аддзялення «Згуртавання». Вельмі скупы і ашчадны, заўсёды піў за чужы кошт, курыў толькі чужыя цыгарэты.

Выдатны дзялок. У Лондане купіў сабе вялікі дом, потым прадаў яго. Выехаў з сям'ёй у Злучаныя Штаты Амерыкі. Лічыў, што там большыя магчымасці для заработку. Бартуль заўсёды быў лютым ворагам савецкага народа.

**БАРЫС РАГУЛЯ.** Пляменнік былога дэпутата польскага сейма, заўзятага нацыяналіста Васіля Рагулі. Нарадзіўся ў вёсцы Ачукевічы на Навагрудчыне. У час нападу фашысцкай Германіі на Польшчу Рагуля служыў у польскай арміі. Трапіў да немцаў у палон. Тады і завербавалі яго гітлераўцы. Нейкім чынам Рагуля вярнуўся ў сваю вёску, дзе адразу ж разгарнуў здрадніцкую дзейнасць супраць беларускага народа.

Калі гітлераўскія войскі ў 1941 годзе акупі-

равалі Беларусь, Рагуля прапанаваў ім свае паслугі — стаў нямецкім перакладчыкам. У 1944 годзе, калі гітлераўцы сталі адступаць, яны вырашылі стварыць з нацыяналістаў «батальёны краёвай абароны». Барыс Рагуля, імкнучыся як мага лепш дагадзіць фашыстам, быў адным з актыўных стваральнікаў БКА. Яго намаганні не засталіся незаўважанымі: фашысцкага прыхвасня прызначылі камандзірам батальёна БКА ў Навагрудку. У чэрвені 1944 года Рагуля ўцёк на Захад. Спачатку жыў у Заходняй Германіі.

У Англіі яго хутка падабралі ворагі савецкага народа. Рагуля стаў членам «Згуртавання». Потым яму даручылі, як і раней, вербаваць беларускую моладзь, але на гэты раз не ў СБМ, а ў дыверсійна-разведвальную школу,

У ліпені 1951 года Рагуля закончыў Лювенскі каталіцкі універсітэт і атрымаў званне доктара медыцыны. Бадай, актыўней за іншых Рагуля выступаў на старонках «Бацькаўшчыны» з артыкуламі, сэнс якіх зводзіўся да аднаго: ён заклікаў беларускую эміграцыю згуртавацца вакол БНР і яе «прэзідэнта» Міколы Абрамчыка (быў час, калі Рагуля, будучы намеснікам «прэзідэнта» Астроўскага, заклікаў групавацца вакол БЦР), і выслужвацца перад ворагамі Радзімы.

Ведаю я і іншых актывістаў гэтага зборышча, але не лічу патрэбным гаварыць аб іх, таму што ўсе яны падобны адзін на аднаго. Розніца паміж імі толькі ў тым, што аднаго больш

зацягнула нацыяналістычнае балота, другога менш. Усе яны людзі рознага ўзросту, розных прафесій, але з аднолькавымі схільнасцямі, з аднолькавым чорным нутром.

---

# Каму яны служаць



1950 годзе пачалася вярбоўка ў амерыканскую разведку. Вельмі часта ў дом-манастыр Чэслава Сіповіча заглядвалі прадстаўнікі амерыканскай або англійскай разведкі. З якой мэтай яны бывалі там, тады мы дакладна не ведалі, маглі толькі меркаваць, здагадвацца. Аднойчы, калі ў нас праходзіў чарговы сход, з'явіўся амерыканскі прадстаўнік. Сіповіч радасна сустрэў яго, прадставіў нам як пасланца ледзь не самога «ўсявышняга», і яны выйшлі ў другі пакой — спальню Сіповіча. Па ўсяму было відаць, што спатканне з янкі было загадзя падрыхтавана.




На чыім вазку сяджу...

Праз некаторы час «згуртаванцаў» па аднным сталі выклікаць на размову з гэтым «божым пасланцом».

Дайшла чарга і да мяне. Мне было прапанавана падрабязна расказаць сваю біяграфію. Не ведаю чаму, але я ім не падыйшоў. У гэты дзень завербавалі некалькі чалавек. Сіповіч прачытаў ім настаўленне, каб яны, рабы божыя, добра служылі «ўсявышняму», і навабранцы неадкладна былі адпраўлены ў Мюнхен у дыверсійна-разведвальную школу.

Неяк праз ватыканскія колы Сіповіч атрымаў даручэнне пасляць групу беларускай моладзі на вучобу ў Лювенскі каталіцкі універсітэт (Бельгія). У спісы будучых студэнтаў унеслі актывістаў нацыяналістычнага балота, іх сынкоў. Трапіла ў гэтыя спісы і некалькі сумленных беларускіх юнакоў, якія вельмі хацелі вучыцца, але не мелі сродкаў.

Хутка 20 маладых беларусаў, у тым ліку «згуртаванцы» Барыс Рагуля, Уладзімр Цвірко, Міхаіл Булыга, Бутрымовіч і іншыя накіраваліся на вучобу ў Лювен.

Мне па справах службы ў «Згуртаванні» даводзілася бываць у Лювене, таму я добра ведаю, што ўяўляе гэтая навучальная ўстанова. Для навучэнцаў у Лювене былі створаны нядрэнныя ўмовы. Іх забяспечвалі інтэрнатам, грашыма і муштравалі так, каб яны былі гатовы на ўсё ў любую мінуту.

Пасля сканчэння тэрміну навучання некаторыя выпускнікі вярнуліся ў Лондан, дзе атрымалі кіруючыя пасады ў адпаведных здрадніц-




Кухня нацыяналістычнага балота.

кіх арганізацыях, некаторых накіравалі ў Заходнюю Германію весці шпіёнска-падрыўную дзейнасць супраць сацыялістычных краін, працаваць у беларускім аддзеле радыёвяшчання «Вызваленне», у нацыяналістычных газетах.

Думаю, што маім суродзічам цяпер зразумела, каму служылі «згуртаванцы», па чыіх указках і на каго яны працавалі.

---

# Пра БНР, БЦР і іх „прэзідэнтаў“



ТОЙ час за рубяжом вяліся жорсткія спрэчкі паміж БНР, БЦР і іх «прэзідэнтамі»: Міколам Абрамчыкам — «тэстаментаваным» самазванцам і Радаславам Астроўскім — гітлераўскім стаўленікам. Вялася барацьба за ўладу.

Частка беларускай эміграцыі, у тым ліку і «згуртаванцы», падтрымлівалі Абрамчыка. Другая частка эмігрантаў была на баку Астроўскага, трэцяя — самыя разумныя і свядомыя беларусы — не прызнавалі ні таго, ні другога, ішлі сваёй сумленнай, працоўнай дарогай, не звяртаючы ўвагі ні на якія нацыяналістычныя арганізацыі.

...Пасля сканчэння Вялікай Айчыннай вайны Р. Астроўскі, хаваючыся пад прозвішчам Корбута, сядзеў, як мыш пад венікам, баючыся, што на падставе міжнароднага дагавору аб выдачы ваенных злачынцаў яго выдадуць Савецкім уладам.

Не дзейнічала і яго фальшывая БЦР. Неяк БЦР нават зрабіла заяву ў беларускім нацыяналістычным друку аб самаліквідацыі. «Халодная вайна» і парушэнне Англіяй і Злучанымі Штатамі Амерыкі пагаднення аб выдачы ваенных злачынцаў і вяртанні перамешчаных асоб далі магчымасць Астроўскаму аднавіць антынародную дзейнасць.

Увосень 1947 года ў Заходняй Германіі прагучала «палымяная» прамова Астроўскага. Ён заклікаў беларускую эміграцыю аб'яднацца вакол яго, актыўна ўдзельнічаць у яго арганізацыях, газетах, радыё.

Астроўскі стварыў свае арганізацыі ў Заходняй Германіі, Англіі і Злучаных Штатах Амерыкі. Больш моцную падтрымку ён меў у Англіі, дзе пасля ўзнаўлення яго дзейнасці, пачаўся раскол беларускіх нацыяналістаў. Частка з іх адкалолася ад ЗБВБ і перайшла ў лагер Астроўскага, стварыўшы сваю арганізацыю ХАБР. На чале яе стаў Барыс Суравы, якога падтрымалі А. Варава, А. Жданковіч, Серафімовіч, Лебядзеўскі, Весялкоўскі.

Прыкладна ў 1950 годзе БЦР стварыла нацыяналістычную арганізацыю «Беларускі вызвольны рух». Мэтай яе было аб'яднанне ўсёй беларускай нацыяналістычнай эміграцыі за

рубяжом. Цэнтральны Камітэт «Беларускага вызвольнага руху» ўзначаліў Зарэчны. Да яго прымкнулі некаторыя супрацоўнікі БЦР Астроўскага, яны ж былі і членамі ХАБР.

«Вызвольны рух» ствараўся як аб'яднанне былых «вайскоўцаў» у мэтах наступнага іх удзелу ў «вызваленні» Беларусі. Пазней пачаліся спрэчкі паміж Астроўскім і Зарэчным. Апошні неўзабаве адкалоўся ад БЦР.

Усе гэтыя «спрэчкі» і «рознагалоссі», пад якім бы выглядам яны ні вяліся ў балоце, мелі адну мэту: лепш выслужыцца перад новымі гаспадарамі. Гэта была бойка за доступ да карыта, з якога кожны імкнуўся сёрбаць як мага больш.

Цэнтр дзейнасці Абрамчыка быў у Заходняй Германіі, Астроўскі ўсталяваўся ў Англіі. У той час Абрамчык і Астроўскі паскоранымі тэмпамі насаджалі свае гнёзды ў многіх краінах свету — Бельгіі, Францыі, Англіі і інш.

...Мне асабіста даводзілася сустракацца і з адным «прэзідэнтам», і з другім.

З Радаславам Астроўскім упершыню сустрэўся я ў Аркадзія Варавы. Прыйшоў ён туды са сваім ад'ютантам «палкоўнікам» (прозвішча яго не памятаю) для таго, каб завербаваць у сваю арганізацыю былых ваенных — камбатантаў. Мяне запрасілі на сустрэчу як старшыню аддзялення «Згуртавання», куды ўваходзіла нямала былых ваяк.

Варава прадставіў мяне «прэзідэнту». Перада мной быў жвавы мужчына, гадоў пяцідзесяці пяці, у акулярах. Разгаварыліся.

«Прэзідэнт» павёў доўгую размову аб палітыцы, аб неабходнасці пашырэння існуючых арганізацый і прыцягнення да работы ў іх новых людзей, падкрэсліўшы пры гэтым, што «палітычнаму кіраўніку заўсёды патрэбен чарназём, масы».

— Ну дык што? Дагаварыліся? Бярыце сваіх людзей і — да мяне. За гэта вы атрымаеце самы высокі наш ордэн,— сказаў Астроўскі.

— Я падумаю, — адказаў я, але на бок Астроўскага вырашыў не пераходзіць.

Аднойчы, калі я яшчэ амаль нічога не ведаў пра Беларусь, якую пакінуў многа год назад, я звярнуўся да Астроўскага:

— Вы ў час гітлераўскай акупацыі былі ў Беларусі. Скажыце, калі ласка, як тады жыў наш народ?

«Прэзідэнт» на хвілінку-другую задумаўся, потым сказаў:

— Ведалі б вы, мой сябра, колькі сіл і здароўя паклаў я, каб выратаваць шматпакутны беларускі народ...

Гэта гаварыў чалавек, які ў гады гаспадарання на нашай зямлі фашысцкіх людаедаў дапамагаў ім ператвараць беларускія гарады і вёскі ў руіны і папялішчы.

Другі «прэзідэнт» — Мікола Абрамчык. Гэта невысокага росту брунет у акулярах. Звычайна ён трымаўся паважна, з пачуццём уласнай годнасці. У той час ён займаўся «палітыкай», жыў на амерыканскія грошы. Гэта вельмі асцярожны, негаваркі чалавек. Словы, якія

ён цадзіў праз зубы, вылятталі з-пад яго чорных вусікаў невялікімі порцыямі:

— Толькі нам дано вызваліць Беларусь...

— Толькі дзякуючы нам, Беларусь стане свабоднай і шчаслівай...

— Ахвяруем жа, браты, свае зберажэнні на вызваленне радзімы...

Больш за ўсё Абрамчык любіў дзень 25 сакавіка — свята нацыяналістаў. У гэты дзень кожны год прапіваліся ахвяраванні, а «вызвольнікі» ў п'яным чадзе выношвалі недарэчныя планы «вызвалення» Беларусі і беларусаў.

Адразу ж пасля сканчэння Вялікай Айчыннай вайны Абрамчык перайшоў на поўнае ўтрыманне амерыканскай разведкі. Атрымліваў ад яе кіруючыя ўказанні, вербаваў людзей для дыверсійна-шпіёнскай і падрыўной дзейнасці супраць Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі.

...Апошні раз я сустрэўся з Абрамчыкам у маі 1956 года. Сустрэча, арганізаваная так званым англа-беларускім таварыствам, якое ўзначальваў член парламента кансерватар Ормсбі Гор, адбылася ў англійскім парламенце. Прыём быў арганізаваны з прычыны гадавіны «незалежнасці БНР». На прыёме прысутнічала 13 дэпутатаў парламента, у большасці кансерватары, каталіцкі біскуп, былы польскі пасол Рачынскі і іншыя.

Я павінен быў перакладаць прамовы выступаючых. Першым выказваўся Гор. Прамова яго была асцярожнай і зводзілася да таго, што

адшчапенцы беларускага народа, магчыма, калісьці спатрэбяцца, а таму яны павінны працаваць для будучыні.

Наступным выступаў Абрамчык. Ён падзякаваў прамоўцу за тое, што, як ён сказаў, цвярдыня свабоды — англійскі парламент прымае яго ў гэтым будынку, што ўзніме дух антыкамуністычных «змагароў» у іх барацьбе...

Уся гэтая камедыя адбывалася ў 1956 годзе, калі Савецкая Беларусь, цалкам аднавіўшы разбураную вайной гаспадарку, хутка і ўпэўнена ішла наперад па шляху працвітання. «Вызвольнікі» мне здаліся і смешнымі і агіднымі.

У гэтым годзе я вярнуўся ў Беларусь і сваімі вачыма ўбачыў, як пры братняй дапамозе і падтрымцы ўсяго савецкага народа ў Беларусі ўступалі ў строй новыя прамысловыя гіганты, фабрыкі і заводы, адкрываліся новыя інстытуты, школы, бальніцы, санаторыі. З кожным днём расцвітала жыццё народа.

---

# Вяртанне на зямлю беларускую



ОСЕМ год я праседзеў у варожым балоце. Восем год я назіраў за дзейнасцю гэтага «нацыянальна-вызвольнага змагання», прадстаўнікі якога ўвесь час імкнуліся даказаць, што яны «сапраўдныя сябры» беларускага народа, што яны нічога агульнага не маюць з англа-амерыканскімі імперыялістамі, што яны, маўляў, ніколі ім не служылі і служыць не збіраюцца.

Хлусня ўсё гэта!

Хоць крыху позна, але я зразумеў, за што змагаюцца гэтыя «вызвольнікі», зразумеў сутнасць іх дзейнасці і тое, каму яны служылі і служаць.

Добра разабраўся я і ў іншых рэчах. Жывучы ў Англіі, меў магчымасць сачыць і за жыццём на Радзіме. Я стаў атрымліваць пісьмы з роднага краю. Мне пісалі аб тым, як змянілася аблічча Беларусі. Добра ведаючы замежныя мовы, я чытаў прагрэсіўныя зарубежныя часопісы і газеты, дзе змяшчаліся аб'ектыўныя матэрыялы аб поспехах і дасягненнях СССР. Я слухаў радыёперадачы з Савецкага Саюза, сустракаўся ў Лондане з прадстаўнікамі савецкай культуры, бачыў савецкія параходы, якія прыплывалі ў Англію з рознымі таварамі, глядзеў фільмы і кіначасопісы, чытаў савецкія кнігі. Нарэшце, я бачыў, якую актыўную і паслядоўную барацьбу за мір вядзе савецкі народ пад кіраўніцтвам сваёй Камуністычнай партыі. Усё гэта раскрыла мне вочы...

20 ліпеня 1956 года я, мая жонка Джэйн Даленберг, амерыканка, і двухгадовая дачка Ірына ўзняліся на борт савецкага цеплахода і адплылі з Лондана ў Ленінград. У порце нас праводзілі сябры і знаёмыя.

На цеплаходзе мы атрымалі ўтульную каюту. У час падарожжа харчаваліся ў добрым рэстаране. Я ніколі і нідзе ў жыцці так хараша і смачна не харчаваўся, як на савецкім цеплаходзе. Абслугоўванне пасажыраў было вельмі дружалюбнае і бездакорнае.

На наступны дзень вечарам мы прыехалі ў Капенгаген, дзе наш цеплаход затрымаўся на некалькі гадзін. Англічане-турысты запрасілі мяне сыйсці разам на бераг, адправіцца ў го-

рад і павячэраць з імі ў дацкім рэстаране. Калі я прыняў запрашэнне і паехаў з імі ў горад без перашкод з боку савецкай каманды, англічане шчыра здзівіліся. Яны сказалі: «Мы ніколі не чакалі, што ў час прыпынкаў савецкіх суднаў у зарубежных портах савецкім грамадзянам прадастаўляюць неабмежаваную свабоду дзеяння». На борт цеплахода мы вярнуліся ў 12 гадзін ночы. Цеплаход узяў курс на Стакгольм.

У Хельсінкі нас таксама чакаў прыемны сюрпрыз. Пасля лонданскіх трушчоб і смецця здзіўляла чысціня вуліц, ветлівасць і добразычлівасць фінаў, прыгажосць выставак у іх магазінах. Мы гулялі па вуліцах фінскай сталіцы і гутарылі з яе жыхарамі. У Даніі, Швецыі і Фінляндыі мы размаўлялі па-англійску, і многія нас разумелі. Апрача таго, тут жа з'яўляліся добраахвотнікі-перакладчыкі, якія перакладалі нашы пытанні і адказы субяседнікаў.

Нарэшце, Ленінград. Я ўсё жыццё марыў пабываць у горадзе Леніна, горадзе-герої. На прыстані нас сустрэлі прадстаўнікі Камітэта за вяртанне на Радзіму. Сустрэча была цёплая і сардэчная. Мы адразу адчулі сябе сярод блізкіх і родных людзей.

У Ленінградзе нас акружылі вялікімі клопатамі: забяспечылі харчаваннем і транспартам, аказалі грашовую дапамогу і прадаставілі пакой у гасцініцы. На працягу дзесяці дзён мы аглядалі свяшчэнныя гістарычныя мясціны, пабывалі ў музеях, палацах, у тэатрах і на

новабудоўлях, а таксама ў метро. І рабілася гэта за кошт дзяржавы. Мы ад душы дзякавалі за гэта савецкім людзям.

Пасля шматлікіх экскурсій у Ленінградзе я запытаўся ў прадстаўніка Камітэта, што я павінен рабіць і куды ехаць? К майму здзіўленню, мне сказалі, што я сам маю права ехаць, куды хачу, і ўладкоўвацца на работу па жаданню. Прычым запэўнілі, што пасля прыезду ў выбраны горад мясцовая Савецкая ўлада акажа патрэбнае садзеянне, забяспечыць мяне і маю сям'ю жыллём і работай.

Без хістанняў я выказаў жаданне паехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Мінск. Мне ўручылі неабходныя дакументы, даведкі, білеты і грошы. Члены Камітэта праводзілі нас на вакзал, дапамаглі з пагрузкай багажу, забяспечылі харчаваннем на дарогу. Мы развіталіся з імі, як з самымі блізкімі людзьмі.

І вось наш поезд паімчаўся ў напрамку да роднага Мінска. Быў цудоўны сонечны дзень. Гледзячы ў акно, я быў узрушаны да глыбіні душы. Якая неймаверная радасць быць зноў на роднай зямлі сярод сваіх людзей пасля дваццацігадовай адсутнасці! У памяці, як у калейдаскопе, прамільгнулі падзеі дваццаці год майго жыцця за рубяжом.

Польшча, Францыя, Іспанія, Англія... Я паглыбіўся ва ўспаміны пройдзенага жыццёвага шляху. Аднак пасажыры нашага вагона не далі мне магчымасці задумацца надоўга. Наша замежнае адзенне і англійская мова, на якой мы гаварылі з жонкай, вельмі хутка прыцяг-

нулі ўвагу суседзяў па купэ. Яны пачалі дружалюбна знаёміцца з намі. Пасыпаліся пытанні, завязалася гутарка. Нашы субяседнікі цікавіліся ўмовамі жыцця за рубяжом, а нам хацелася ведаць усё пра Савецкі Саюз. Мы вельмі хутка знайшлі агульную мову.

У мяне запыталі, што найбольш цікавае ў Савецкім Саюзе для прыезджага з-за мяжы. Я адказаў, што мяне асабіста здзіўляе гіганцкі размах будаўніцтва. З вокнаў вагона было відаць, што ўсе вёскі і гарады, праз якія або паблізу якіх праязджаў наш поезд, літаральна ў рыштаваннях новабудоўляў. Я сказаў яшчэ маім субяседнікам, што мяне захапляе выключная дружалюбнасць і гасціннасць савецкага народа.

...Прачнуліся позняй раніцай на роднай беларускай зямлі. Я ледзь стрымаўся ад слёз. Мы паснедалі і працягвалі нашу незакончаную ўчарашнюю гутарку. У вагоне аказалася некалькі мінчан. Яны прапанавалі свае адрасы на выпадак, калі мне патрэбна будзе якая-небудзь дапамога.

У Маладзечна мы пераселі ў прыгарадны поезд, які ішоў у Мінск. З заштатнага паўятовага гарадка, дзе я раней часта бываў, Маладзечна ператварылася ў прамысловы і культурны цэнтр з новымі заводамі, фабрыкамі, навучальнымі ўстановамі і прыгожымі шматпавярховымі будынкамі. Проста вачам не верылася.

Праз дзве гадзіны мы былі ўжо на Мінскім вакзале. Гэта было 6 жніўня 1956 года.



Б. Курага-Скрага на плошчы Калініна ў Мінску.

Я выклікаў таксі і папрасіў вадзіцеля адвезці нас у гасцініцу. Жонка і дачка адразу ляглі спаць пасля працяглай паездкі, а я пайшоў аглядаць горад. Да позняй ночы хадзіў па вуліцах, захапляючыся архітэктурным харастром будынкаў, незлічонымі насаджэннямі дэкаратыўных дрэў і кустоў, кветак і газонаў уздоўж вуліц і плошчаў. Хутка я прышоў да вываду, што любая заходнееўрапейская краіна можа пазайздросціць беларусам, іх сталіцы. Я многа падарожнічаў і бачыў вельмі многа гарадоў у сваім жыцці, але мне яшчэ ні разу не давялося сустрэць ні ў адным з іх столькі зеляніны і кветак, такога мноства паркаў і сквераў.

Я некалькі дзён знаёміўся з Мінскам, але трэба было брацца за справу. Пакуль не працаваў, атрымліваў грашовую дапамогу ад мясцовых улад. Аднак без работы быў нядоўга і хутка перастаў мець патрэбу ў дзяржаўнай дапамозе. Па рэкамендацыі Міністэрства замежных спраў ужо ў першыя дні верасня 1956 года мне прапанавалі рабіць пераклады, якія вельмі добра аплачваліся.

З 1 кастрычніка 1956 года я працую ў Акадэміі навук БССР у якасці рэферэнта-перакладчыка і абслугоўваю навуковыя інстытуты і іншыя дзяржаўныя ўстановы. Жонка таксама працуе ў Акадэміі навук БССР і робіць пераклады. Адным словам, мы карыстаемся ўсеагульнай павагай і даверам і вельмі добра зарабляем. Напярэдадні Кастрычніцкіх свят у 1956 годзе мы атрымалі ў цэнтры горада доб-

рую кватэру з усімі зручнасцямі. Павялічылася наша сям'я: у 1956 годзе нарадзілася другая дачка — Зоя.

Цудоўныя дзіцячыя сады нашага горада дапамагаюць нам расціць і выхоўваць дзяцей. Бясплатная медыцынская дапамога забяспечвае добры стан іх здароўя. Разам з жонкай мы штогод праводзім месяц у дамах адпачынку або на курортах, а дзеці нашы кожнае лета едуць на тры месяцы на дачу.

---

# Не верце ім!

ОДЛЫЯ здраднікі Радзімы — абрамчыкі, астроўскія, рагулі, надсоны, лашукі і ім падобныя — і цяпер жывуць побач з вамі, дарагія землякі. І цяпер гэтыя здраднікі, адшчапенцы народа, ва ўсіх капіталістычных краінах ствараюць свае арганізацыі і групы. Не верце ім!

За мяжой у мяне засталіся добрыя знаёмыя, якія, як і я, парвалі з нацыяналістамі — «згуртаванцамі». Яны пішуць мне пісьмы, дзе з гневам паведамляюць, што «згуртаванцы» прадаўжаюць сваю брудную справу. Неяк раней я атрымаў ад іх некалькі нацыяналістычных газет. Прачытаўшы іх, я яшчэ раз пера-

канаўся ў тым, што правільна паступіў, парваўшы з нацыяналістычным балотам.

Чытаючы бязглуздзіцу, якую падносяць сваім чытачам нацыяналістычныя газеткі, я зразумеў, што гэта балота стала яшчэ больш мярзотным. Здраднікі-нацыяналісты па-ранейшаму песцяць надзеі з'явіцца на нашай зямлі. Але гэтыя вар'яцкія планы ніколі не збудуцца!

Звяртаючыся да вас, дарагія суайчыннікі, я хачу сказаць: не верце гэтым мярзотнікам! Не трапляйце ў іх павуціннне так, як трапіў калісьці я.

Наша цудоўная Радзіма — моцная і магутная, як ні адна краіна ў свеце. Яна ўпэўнена ідзе да вялікай мэты — камунізма.

Я шчаслівы, што зноў хаджу па сваёй роднай зямлі беларускай, дыхаю чыстым паветрам, свабодным ад атруты варожай прапаганды.

---



Б. Курага-Скрага ля ўваходу ў Батанічны сад БССР.

# ЗМЕСТ

